

# А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...

У ДАПАМОГУ МАСТАЦКАЙ САМАДЗЕЙНАСЦІ

Бясплатны дадатак да часопіса «Маладосць» № 5 1962 г.

Міхаіл ЧАУСКІ

# З ПЕРЦАМ, АЛЕ СА ШЧЫРЫМ СЭРЦАМ

## Эстрадная праграма ў двух аддзяленнях

## ВОЖЫК У КАЛГАСЕ
### Першае аддзяленне

На прасцэніуме Вядучыя.

1-ы вядучы (*да публікі*). Дарагія таварышы! Сёння да нас у калгас завітаў госць.

2-і вядучы. Дарагім людзям і мы рады будзем!

3-і вядучы (*жанчына*). Госць лавы не праседзіць! Запрашай яго сюды!

2-і вядучы. А яго голымі рукамі не возьмеш, калючы!

Борздзенька тэпае Вожык. На яго плячах — з аднаго боку торба паштальёна, на якой буйнымі літарамі напісана: «Пошта Вожыка»; з другога боку — фотаапарат. У руках — вялікі чырвоны аловак.

Вядучы (*абвяшчае*). Наш Зарэчанскі вожык! * Дык калі ласка, дзядзька Вожык!

Вожык (*вядучаму*). Госцю гадзі, дый сабе глядзі. (*Да публікі.*) Добры вечар, сябры, добрае вам здароўечка. Шчырае прывітанне. Вельмі рады з вамі сустрэцца. Гэтулькі калгасаў і саўгасаў аб'ехалі з нашай рэйдавай брыгадай І сябе, як кажуць, паказалі ды і на людзей паглядзелі.

* Можа быць і Маладзечанскім, Рагачоўскім ці Слуцкім у залежнасці ад таго, дзе адбываецца выступленне.



1-ы вядучы. І якіх людзей! — Добрых, дбайных, працавітых.

2-і вядучы. Мы ўвачавідкі бачылі, які плён уносіць савецкі чалавек у будаўніцтва камунізма.

3-і вядучы. Пацікавіліся мы, як жывецца-працуецца тым, каго з гордасцю маякамі называем, хто далёка свеціць нязгасным агнём энтузіязму, хто натхняе прыкладам плённай сваёй працы, высокай культурай, мужнай барацьбой за высокі ўраджай.

1-ы вядучы. А колькі тут у зале такіх, хто працуе з агнём, з камсамольскім юнацкім запалам!

2-і вядучы. Народ тутэйшы добры!

На сцэну з розных бакоў выходзяць юнакі і дзяўчаты — удзельнікі агітбрыгады і вітаюць гледача.

Першы. Дзень добры вам, слаўныя паляводы і жывёлаводы!

Другі. Шчырае прывітанне даглядчыцам і даяркам!

Трэці. Цялятніцам і свінаркам!

Чацвёрты. Добрага вам здароўя, слаўныя кукурузаводы і буракаводы!

Пяты. І вам, нястомныя трактарысты, машыністы...

Шосты. І ўсім механізатарам!..

Сёмы. Смелым наватарам!

Восьмы. І тым, хто ў спаборніцтве завадатары.

Усе. Нізкі паклон вам, сейбіты нашага шчасця! (*Прозвішчы.*)

Вожык. Вельмі рады і я сустрэчы з вамі. Паболей бы такіх сустрэч. Але, выбачайце, калі ласка, ёсць, на жаль, і такія сустрэчы...

Вядучы. Якія такія?

Вожык. А такія, галубок, што ты да яго з адкрытай душою, а ён да цябе — з ліслівай усмешкай ды з нажом за пазухай. Ты яго хлебам-соллю сустракаеш, а ён са скуры вылузваецца, каб найбольш табе насаліць.

2-і вядучы. Ды хто ж гэта такі, дзядзька Вожык?

Вожык. Ды вось адгадайце:

То ў балота заб'ецца,
То на купіну ўзбярэцца
І надзьмецца, і напнецца,
І як блыха паскача,
І закрумкае, заплача...

Дзяўчаты. Жаба! Жаба!

Вожык. Заморская жаба. От слухайце:

## У ГУТАРЦЫ НЕ З НАШЫМ КАРЭСПАНДЭНТАМ

Фельетон-сцэнка.

1-ы вядучы. У калгас «Барацьбіт» завіталі заморскія карэспандэнты...

З'яўляюцца карэспандэнт, фотакарэспандэнт і старшыня калгаса. Вядучы пакідае сцэну.

Карэспандэнт. Пан старшыня, скажыце...
Фотакарэспандэнт (*падхоплівае*). Толькі па шчырасці, містэр Ярмальюк!
Карэспандэнт. Няўжо ў вашым калгасе і сапраўды ўжо няма непісьменных?
Фотакарэспандэнт. Напэўна ж, ёсць.
Старшыня калгаса (*хітравата*). Яно, як падумаўшы, дык, прызнацца, ёсцека.

Заморскія карэспандэнты, ну, проста акрыялі. Адзін з іх выхапіў блакнот і ўзброіўся самапіскай, другі нацэліўся фотаапаратам.

Старшыня. Але прашу не спяшацца. У большасці яны маласвядомыя і вельмі наіўныя...
Фотакарэспандэнт (*перабівае*). Мы таксама думаем, што яны наіўныя... як дзеці! Вядома, непісьменныя.
Карэспандэнт. Містэр Ярмальюк! Просім без лішніх каментарыяў. Нам патрэбны толькі факты. Многа ў вас такіх непісьменных?
Старшыня (*цяжка ўздыхнуў*). Нямала, паны карэспандэнты. Ёсць! Што праўда, то праўда... (*Ціха, нібы па сакрэту.*) І ведаеце? Усё прыбаўляецца! Прыбаўляецца, шаноўныя паны карэспандэнты! Сёння, лічы, зарэгістравана яшчэ пяць непісьменных.
Карэспандэнт (*падахвочвае*). Лічбы, агульныя лічбы выкладайце. Колькі іх усяго ў вас, містэр Ярмальюк?
Старшыня. Ці бачыце, я не лічыў, не лічыў... але я ж кажу — нямала.
Карэспандэнт (*усцешыўся*). Ол' райт! Дык усё-такі многа? О-о! Сенсацыён! (*Хуценька зашкроб пяром. Шкрабе і шэпча.*) Кантрасты... Зямля і неба... На небе ракетныя караблі, а на зямлі... непісьменныя вёскі... Цемра... Дзікая адсталасць...
Старшыня. Я ж вам казаў: з вывадамі не спяшайцеся, не спяшайцеся, панове, бо паспех — людзям на смех. Перш за ўсё вам трэба было ведаць...
Карэспандэнт (*падхоплівае*). Што мы павінны з усёй аб'ектыўнасцю. Ол'райт, містэр Ярмальюк — пра горад — ні слова! Наша тэма: «Непісьменнасць вёскі». Нам застаецца толькі пагутарыць з якім-небудзь непісьменным...
Фотакарэспандэнт. І зрабіць з яго фотаздымак.
Старшыня. Што ж, калі на тое будзе ваша ласка. Дык вось — бачыце гэты дом? Тут амаль усе непісьменныя.
Фотакарэспандэнт. О-о! Цудоўны дом! (*Пстрыкае фотаапаратам.*)
Карэспандэнт (*іранічна*). У новым доме і, як у вас кажуць, старыя перажыткі, суцэльная непісьменнасць. (*Смяецца.*)

Чутна, як дзеці весела спяваюць:

Колькі пясчынак ў марской глыбіні, —
Столькі і нас падрастае ў сям'і,
У самай цудоўнай,
У самай шчаслівай
Савецкай сям'і...

Старшыня. Чуеце? Гэта дзеці ідуць з дзіцячага сада, што ў гэтым доме.
Карэспандэнт. Дык з кім з непісьменных вы, містэр Ярмальюк, параіце мне пагутарыць?
Старшыня. Гэй, Яначка! Хадзі, сыночак, сюды, вунь гэтыя... містэры хочуць табе нешта сказаць. Хадзі, хадзі, не бойся. (*Да карэспандэнта.*) Пагутарыце з гэтым непісьменным грамадзянінам нашай калгаснай вёскі.

Не нашыя карэспандэнты збянтэжана лыпаюць вачыма.

Дык, калі ласка, паны карэспандэнты, інтэрвьюіруйце нашага Янку Зыкава.
Карэспандэнт (*штучна смяецца*). Жартуеце, пан старшыня, гэта ж дзіця, яшчэ горкае дзіця! (*Спявае.*) Спі, мой бэбі...
Фотакарэспандэнт (*хіхікае*). О-о, містэр Ярмальюк любіць пажартаваць!
Старшыня. Не, я ўпаўне сур'ёзна — непісьменнага насельніцтва ў нас-такі нямала. Пішыце, пішыце...

Карэспандэнт ужо не шкрабае пяром, фотакарэспандэнт не пстрыкае фотаапаратам.

Непісьменныя яны з самага дня нараджэння... Дык пішыце!.. Непісьменныя! З самага дня нараджэння аж да сямігадовага ўзросту. Дык чаму ж не пішаце? Пішыце: пераважная боль-

шасць з іх ні чытаць, ні пісаць не ўмее, пакуль не пойдзе ў школу. Дарэчы! Вось яна, школа-дзесяцігодка! Чаму ж не фатаграфуеце? А можа зойдзем паглядзець? Не хочаце? Ну, як сабе хочаце. Дык можа маеце ахвоту наведаць нашу хату-радзільню, адкуль сёння выпісалася яшчэ пяць непісьменных грамадзян?

Карэспандэнт (*занадта ўжо гучна смяецца*). Пан старшыня вельмі любіць у жмуркі гуляць. Я ж маю на ўвазе не дзяцей-дашкольнікаў, а дарослых, якія чытаць і пісаць не навучыліся. Ну хаця б той містэр.

Старшыня (*усміхаецца*). Вы маеце на ўвазе нашага калгаснага пчаляра дзядзьку Сцяпана?

Карэспандэнт. Ол'райт! Таго, што на сонейку грэе свае косці... Хе-хе-хе... (*З глыбокай іроніяй.*) Ён, мусібыць, толькі па пальцах лічыць умее?

Сцяпан (*набліжаецца, падае рэпліку*). І па рэбрах, пан залётны.

Карэспандэнт. Пра што ён кажа, гэты Сц'епян?

Старшыня. А пра тое, што чалавек ён пісьменны. Чытаць добра ўмее і пісаць. Распісаўся на сцяне рэйхстага як лепш і не трэба. Будзеце ў Берліне, дык можа самі ўбачыце, які ў яго цвёрды почырк. А лічыць умее так, што калі трэба будзе і другога навучыць. Можа, Сцяпан, сам раскажаш, як фашыстам рэбры лічыў?

Сцяпан (*падышоўшы*). Што было дык было, ці варта ўспамінаць? Аднак калі паны вельмі ўжо хочуць, дык магу ўспомніць і вопытам падзяліцца.

Фотакарэспандэнт (*пачынае злавацца*). Зноў пра р'ебры? А што такое р'ебры?

Сцяпан. Тыя ж косці, шаноўныя госці.

Карэспандэнт (*зноў штучна смяецца*). Госці-косці! Ёсць такі рускі паслёвіц. «Сёння госць, а заўтра ў горле косць». Праўда, містэр Ярмальюк? Так што...

Старшыня. Так што... Мы з вамі вельмі цікава пагутарылі, шаноўныя госці. Дык дзякую вам за інтэрвью. О'кэй!

Карэспандэнт. О'кэй!

Фотакарэспандэнт. Майкл! Паехалі хутчэй!

Не нашыя карэспандэнты пакідаюць сцэну, чмыхнуў матор.

Старшыня (*уздыхнуў з палёгкай*). Паехалі...

Сцяпан. Што ж, як той казаў, які «здароў будзь», такое і «на здароўе».

Заслона.



Перад заслонай з'яўляецца чалавек з гэткай важнай паставай, з планшэткай у руцэ. Насустрач яму Вожык з вядучым.

Вожык. Ну, а вы чаго нос павесілі?

Чалавек з планшэткай. Звольнілі мяне. Дапамажы, братка Вожык.

Вожык. Зачаста вы нешта вылятаеце! А цяпер што рабіць думаеце?

Чалавек з планшэткай. Мне б якую-небудзь кіруючую работу.

Вожык (*смяецца*). Каму што, а лысаму грэбень. Абавязкова вам кіруючую!

Чалавек з планшэткай. А што? І мая доля не шчарбатая. Асабліва, калі ты, Вожык, дапаможаш уладкавацца, дык я з мілаю душою. Вядома... па маіх здольнасцях.

Вожык. Ужо калі па вашых здольнасцях, дык тут, даражэнькі, нікуды не дзенешся: на нізавую работу трэба падацца.

Чалавек з планшэткай. На нізавую?! Што ты, што ты, там я адразу, з першага ж кроку правалюся!..

Вожык. Значыць, няма ахвоты да работы? (*Да публікі.*) Вот якія людзі-кадры бываюць.

Чалавек з планшэткай. Якія такія?

Вожык. А такія, галубок, што любяць усё рабіць чужымі бакамі, а ляжаць на сваіх. Маўляў, няхай мядзведзь кудзелю прадзець, а мы сабе на крэсле будзем сядзець.

Вядучы. Во-во! Уранні — росна, удзень — млосна...

Вожык. А ўвечары — камары.

Чалавек з планшэткай. Ох, і дзядзька, з перцам!

Вожык. З перцам то з перцам, але са шчырым сэрцам. Праўда, гэта не зусім да спадобы тым, у каго на язычку мядок, а на сэрцы лядок... Э-э... Што гаварыць.

Чалавек з планшэткай (*азіраецца*). А ты не гавары.

Вожык. Не, скажу! (*Тыцнуў пальцам у грудзі чалавека з планшэткай.*) А навошта, залаценькі, вушы ў каўнер хаваць? Раскажыце от народу, як вы ферму ўкамплектавалі пагалоўем? (*Маўчанне.*) Што, тыц-мыц і няма чаго гаварыць?

Вядучы. Давай, давай, дзядзька Вожык. Сам расказвай.

Вожык (*да публікі*). Дык от якія справы з пагалоўем. Галоў не хапае?

Чалавек з планшэткай (*адступае*). Не хапае.

Вожык. А хвастоў па самае досыць: калодзежа на ска-

цінным двары не пабудавалі? (*Чалавек з планшэткай яшчэ адступае*). Стойлы не адрамантавалі, цялятнікі, свінарнікі не ацяплілі, кармамі не забяспечылі, ды і другія яшчэ хвасты ёсць. (*Чалавек з планшэткай падаецца назад і знікае*).

Вожык. Уся бяда ў тым, што ён сам у хвасце пляцецца.

Вядучы. От за што яму далі па хвасту!

Вожык. А ці ж ён адзін у хвасце пляцецца? Мог бы я яшчэ каго назваць.

Вядучы. Каго?

Вожык. Ну, калі ты, саколік, такі кемлівы, дык адгадай загадку. — Што гэта: не кравец, а з іголкамі?

Вядучы. Вожык! Ну, вядома, Вожык!

Вожык. Ото ж правільна.

Вядучы (*гучна*).

## ВОЖЫК-НАРЫХТОЎШЧЫК

Трагікамедыйная сцэнка.

Вядучы. Дзея адбываецца ў лесе... А бяздзейнасць на скацінным двары. Дзеючыя асобы: Вожык і дзяцел.

Вожык. Бяздзеючыя асобы: таварыш Ціхоня і яго правая рука Балабоня. А вось і яны, бачыце?

Вожык і вядучы пакідаюць сцэну. Са стрэльбамі выходзяць Ціхоня і Балабоня.

Ціхоня (*задраўшы галаву*). Жоўтае, барвовае лісце! Эх, і любата тут, даражэнькі Балабоня! Цішыня, спакой, аж спаць хочацца. (*Пазяхае.*) А-о-х пацягушанькі! А-а-ах хара-а-а-ство!

Балабоня (*таксама пазяхае*). Во-о-се-ень! Лес а-а-га-ляец-ца...

Ціхоня. Толькі х-хва-а-інкі ў зялёным сваім убранні. Бачыш?.. Вунь елкі... распасцерлі лапы, быццам кагосьці хаваюць.

Балабоня. Пад імі грузды, мабыць, яшчэ хаваюцца. Эх, і грыбочкі. (*Прыцмоквае.*) Смаката! Асабліва калі са смятанай! (*Здымае павуцінне з шапкі.*) Павуцінне... Бабіна лета!.. Любата-а-а!

Зноў пазяхаюць. Раптам чуецца за сцэнай: тук-тук! тук-тук-тук!..

Ціхоня (*стрэльба напагатоў*). Хто гэта там тутукае?



Балабоня (*тонам знаўцы*). Гэта, дарагі таварыш Ціхоня, дзяцел носам корм сабе здабывае.

Ціхоня. Бачыш ты яго? Сам сабе стараецца!

Балабоня. Ну, вядома, сам. (*Углядаецца ўдалечыню.*) Вунь упёрся хвастом у кару ды дзюбае сабе ў дрэва — тук-тук! Чуеце, як дзяўбе?

Ціхоня (*усцешна*). Дзяўбе-е-э... Вось гэта птах, дык птах! Працавіты, руплівы! Не тое, што нашы чубаткі, каб на іх ліха. Ім усё гатовенькае падавай. А калі не дасі, дык пратэстуюць. Пратэстуюць і годзе!

Балабоня. Ага, летась у парадку пратэсту — лапкі ўгару...

Ціхоня. Тшш... (*Услухоўваюцца.*) Балабоня! А што гэта там шамаціць, га? Чуеш? Шась-шась...

Балабоня. Цішэй, таварыш Ціхоня! Давайма тут схаваемся. Ага! Так і ёсць — ён. Далібог, ён!

Ціхоня (*зноў стрэльбу напагатоў*). Хто? Што за ён?

Балабоня (*углядаецца*). Вунь за хмызнячком заяц, здаецца. (*Шэптам.*) Тшш... Вунь, глядзі, Ціхоня. Не, не заяц, а Вожык, далібог, Вожык паўз кусты дыбае.

Ціхоня (*углядаецца*). Бачу, Балабоня, бачу і я калючага.

Балабоня. Чуеш, чмыхае. От, каля дуплаватага пня спыніўся. Толькі маўчы, Ціхоня.

Ціхоня (*шэптам*). Слухай, Балабоня! А што ў яго на тых іголках начапляна, га?

Балабоня. Тшш... Ціха, таварыш Ціхоня, ці ж ты не бачыш? Лісце ўсялякае начапляна, дзічкі-яблычкі наколаны, ды вунь нават грыбы нанізаны — тырчаць на іголках! Да зімы рыхтуецца. Корм сабе здабывае.

Ціхоня. От жа разумнае стварэнне! (*З замілаваннем.*) От жа гарапашнік! Сам сабе і памяшканне падрыхтуе і кармоў на зіму нацягае! Каб жа нам, Балабоня, такіх саманарыхтоўшчыкаў, як гэтыя самыя Вожыкі, ды на фермы, га?

Балабоня. Ого, каб наша ды такая жывёліна была! Начапляла б на рогі, на хвасты корму і еж, колькі ўлезе. Нам тады і гора мала было б! Як вы думаеце, таварыш Ціхоня?

Ціхоня. О-о... тады, мабыць, адчапіўся б ад мяне той Мікола Лаўрэнавіч і не сарамаціў бы на ўсіх раённых нарадах. Памятаеш, Балабоня, як ён мяне летась абразіў у прысутнасці сакратара райкома?

3*

Балабоня. Ага, так і выпаліў: «Які ён гаспадар, гэты Ціхоня? Ані бэ, ані мэ, ані кукарэку...»

Ціхоня (*пакрыўджана*). Гэта ж крыўдна, абраза, бо несправядліва.

Балабоня. А я што кажу: у цябе ж на панадворку, дзякуй богу, і бэкае, і мэкае, і кукарэкае... Ого, яшчэ і як мэкае!

Ціхоня (*адмахваецца*). Слухай, Балабоня, а ці праўда, што гэты самы Вожык вельмі ўжо храпе, калі спіць?

Балабоня. Ага! Скора як заляжа, дык ужо на ўсю зіму храпака задасць. Ох і спіць, халера! (*Пазяхае.*)

Ціхоня (*таксама пазяхае*). Нешта і мяне на сон хіліць...

Балабоня. Ага. І мяне...

Абодва пазяхаюць і стоячы засынаюць. Зацямненне. Чутна, як яны храпуць. Святло ўключаецца.

* * *

Вядучы (*выходзіць на сцэну ў кажуху, хукае ў рукі, тупае нагамі*). Спяць, як пяньку прадаўшы. (*Да публікі.*) А я думаю, таварышы калгаснікі, што гэтыя храпака задаюць не толькі ўзімку. Дарэчы, пра такую ініцыятыўную жывёліну, якая б саманарыхтоўкай займалася, мараць Ціхоні ды Балабоні і ў некаторых іншых брыгадах. (*Да аднаго з публікі.*) Дык скажыце, таварыш, паклаўшы руку на сэрца, а ў вашай брыгадзе, выпадкам, такіх няма? (*Тэлефонны званок.*) Алё! З раёна? Хто? Мікола Лаўрэнавіч? Каго-каго? Ціхоню ці Балабоню? Спяць салодкім сном. (*Чуецца храпенне.*) Чуеце, храпуць, аж гай шуміць. Так і ёсць: спяць у шапку. (*Ціхоня мармыча: р-р-рон... Балабоня сапе: с-с-сон...*) От Ціхоня і кажа: лавіў варон, а Балабоня яму ў тон: напаў сон. Ага, так, так... Правільна, прыйшла лянота, дык і ўстаць неахвота... Што? Вожык? Ото ж добра, даўно пара! (*Крычыць.*) Вожык!

Ціхоня (*расплюшчыў вочы*). Вожык? От жа разумнае стварэнне! Каб жа нам Вожыка ды на ферму...

Вядучы. Дык ён ужо на ферме! (*Гучна.*) Вожык на ферме!

Ціхоня і Балабоня (*разам*). Хто-хто-хто?!

Вядучы. Вожык! Ну, Вожык! Рэйд Вожыка па калгасных фермах.

Ціхоня і Балабоня (*з жахам*). Што-што-што?

Нямая сцэна.



## ГРЫБЫ, ЯКІЯ РАСТУЦЬ ТАМ, ДЗЕ НЕ ТРЭБА

Вядучы (*абвяшчае*). А цяпер, дзядзька Вожык, ты адгадай загадку:

Стаіць Кандратка,
На ім шапка,
Хто ні ідзе,
Паклоны аддае?

Вожык. Грыб!

Вядучы. Правільна. Летась нашы нарыхтоўшчыкі грыбам паклоны не давалі? Не давалі! Грыбоў не сабралі? Не сабралі! Дык цяпер грыбоў і днём з агнём не знойдзеш.

Вожык. А ў нарыхтоўчай канторы?

Вядучы. Там хіба толькі канцылярскія грыбы растуць.

Вожык. Ага, Кандраткі-бюракраткі. Яны без дажджу растуць. І не толькі ў заготканторы. (*Абвяшчае.*)

### Жарт прыроды

(З народнага, апрацаваў Андрэй Александровіч).

Вядучы (*дэкламуе*):

Вырас падасінавік
Грыб
Архіп.
На дзіва ўсім
на ім
Прыгожы капялюш:
Ружовы,
Адмысловы,
На ўсю лясную глуш.
Стаіць і задаецца
грыб Архіп.
Не можа наглядзецца
Край зялёны
На капялюш ягоны.
Шэпча — мошка-басаножка:
— Ах, які грыбок харошы!
Крыллем хлопне матылёк:
— Ах, які капелюшок!
Зайка скача, плешча ў лапкі:
— Я такой не бачыў шапкі!
Нават жаба выхваляе:
— Ква-ква-ква, ква-ква-ква, —
Раз такую шапку мае,
Дык якая ж галава!
— Пэўна, талент!
— Пэўна, геній! —
Скрозь шапталі
з захапленнем.
Раптам вецер паявіўся,
грыб

Архіп
закалаціўся,
Капялюш яго на дол.
Пракаціўся колам.
І глядзяць усе наўкол:
Грыб
Архіп
Стаіць, як кол,
Голым, безгаловым.
Ператапталі ўсю траву,
Шукалі, звалі галаву.
І стала ясна, што дарма
Шукаць таго, чаго няма.

Вожык. І не будзем шукаць таго, чаго няма. Але сустракаецца яшчэ і такая разнавіднасць грыбоў. З выгляду прыгажуні — чырвоненькія ў крапінку, ружовенькія, карычневыя!.. Так і лезуць табе ў вочы. А прыгледзішся — паганкі!

Вядучы. І сярод людзей такіх сустрэнеш. З выгляду хвацкі! І адзенне — заглядзенне, а па сутнасці... паганка, порхаўка!

Вожык. Ёсць і такі від лісічак. Яны з'явіліся ў трэцяй брыгадзе і найбольш кусцяцца на рынках, прычым у самыя гарачыя дні поліва ці ўборкі. Цана ім ломаная капейчына ў базарны дзень, але шкоду вялікую прыносяць. Дзе-нідзе выяўляюцца і такія паганыя грыбы, як мухаморы. Найбольш распаўсюджана два віды, напрыклад, Мухамор — П. М.

Вядучы. «П. М.»? Як гэта разумець «П. М.»?

Вожык. Пад мухай. Мухаморы, якія пад мухай бываюць. Другі від мухамора мае назву: ХАМ, або ААМ.

Вядучы (*з жахам*). ХАМ? ААМ?

Вожык. Расшыфроўваю: ХАМ — хаваецца ад мух. ААМ — адмахваецца ад мух і... ад працы. Нам вядомы яшчэ грыбы з такімі папулярнымі назвамі, як падбярозавік, падасінавік, але водзяцца яны і пад іншымі дрэвамі, ці кустамі, у любым цянёчку.

Вядучы. Дык гэта ты пра тых, хто хаваецца ад працы, як той цюцька ад мух. Схаваўся ў цень і прапаў цэлы дзень.

Вожык. Ну, вядома, не пра тых жа, каму кожны працоўны дзень прыносіць важкі працадзень. Бо «дзе шчырая праца, там густа, а дзе лянота, там пуста». Я пра тых, у каго адны гультаядні. От, напрыклад, святы грыб: вялікдзень — тры працадні прагуляў, радаўніца — два, сёмуха — два, Мікола — два... Свята святога гультая — дзесяць. Ого! На ўсіх святых і працадзён у яго не хопіць.



## РУХАВІК БЕЗ ЭНЕРГІІ

Вядучы. Можа ты яшчэ якую загадку загадаеш?

Вожык. Якія толькі, браце, загадкі не бываюць! Неяк завітаў я ў калгас і пайшоў проста на малочна-таварную ферму. Люблю, прызнацца, на каровак палюбавацца. Бачу, жанчыны гэтак спрытна каля рагулек завіхаюцца. «Добры дзень вам у хату!» — кажу. «Добрага вам здароўечка, дзядзька Вожык». «Што ў вас новенькага?» — пытаюся. «А ты лепш дапамажы нам, дзядзька Вожык, старую загадку адгадаць. Наш старшынька аніяк не адгадае:

Тры браты
Пайшлі вунь туды —
Да вады;
Два купаюцца,
Трэці на беразе валяецца,
З вады выйшлі,
На трэцім павіслі?

Вядучы. І адгадаў?

Вожык. Тут усё ясна! Тыя браты, што купаюцца, гэта вёдры. А той, што на беразе валяецца — каромысел. «Вось і ўся механізацыя фермы», — кажу. «Як гэта ўся, — абурылася маладзіца. — Яшчэ гадоў колькі таму назад цэлы даільны агрэгат прыдбалі. Але справы з механізацыяй з месца ў нас не рушылі». «Дык, можа, рухавіка там не хапае?» — пытаюся. «Ты маеш рацыю, — адказвае даярка. — Не хапае рухавіка, я хацела сказаць, што наш старшыня калгаса нешта дрэнна рухаецца».

Вядучы. Рухаецца так, што нідзе не паспявае.

Вожык. Ага, прыйшла вясна — ужо часу няма, прыйшло лета — бярыся то за тое, то за гэта, падышла восень — яшчэ работ восем. Адным словам: гэта рухавік без энергіі, так сказаць, без унутранага згарання.

## ТАК І ХОЧАЦЦА ПРАЕХАЦЦА

Вядучы. Ну, а цяпер казку раскажы.

Вожык. Думаеш, што Вожык толькі казкі ды байкі расказвае? Лепш от паслухай быль. Калгасніцы лён трапалі і от завітаў да іх старшыня. Абступілі калгасніцы-льнаводкі старшыню і давай яго церабіць: «Ты, старшынька, тэхніку не па-

важаеш, спасабней табе было, відаць, калі летась мы лён рукамі выбіралі!

— Ды чаго вы мяне, жанчынкі, цярэбіце ды цярэбіце? — адмахваецца ён планшэткай.

— І будзем церабіць, пакуль сёлета ільноцерабілкі не будуць адрамантаваны ды так, каб маглі яны лён церабіць, а не лынды біць. А то вунь стаяць пад адкрытым небам і чырванеюць і ад сораму і ад іржаўчыны.

Потым я пайшоў у брыгаду, дзе брыгадзірам . . . . . . .
Гной там не вывозяць, а коні гуляюць.

— Коні, — пытаюся, — у чарговым адпачынку? На курорце?

— Эге,— адказвае мне брыгадзір,— у нас цяпер сталёвыя коні. Гэтулькі конскіх сіл.

— Гэтулькі конскіх сіл, а палі толькі зайцы ўгнойваюць.

Іду далей і вачам сваім не веру: стаіць сярод поля разуты трактар і сумуе, небарака. І так жа захацелася мне яго абуць, вярнуць яму ўсе яго конскія сілы і... праехацца.

В я д у ч ы. Далёка?

В о ж ы к. У раённую пракуратуру.

## «АМБУЛАТОРЫЯ ВОЖЫКА»
### Другое аддзяленне

Адкрываецца заслона і на белым палотнішчы вялікімі літарамі напісана: «Амбулаторыя Вожыка». Палотнішча рассоўваецца. Доктар В о ж ы к выслухоўвае п а ц ы е н т а. Сястра нешта запісвае.

В о ж ы к. Адразу відаць: неспакойная душа.

П а ц ы е н т. Як жа яна будзе спакойная, калі тавары раскрадаюцца. (*Сястра запісвае.*) Дабро разбазарваецца. Не будзе мне спакою, пакуль не прагоняць гэтую хэўру раскрадальнікаў.

В о ж ы к (*смяецца*). Вы, дарагі таварыш, якраз як тая бабулька з апавядання Чэхава. Памятаеце, яна папрасіла, каб урач яе выслухаў. Але замест таго, каб скардзіцца на хваробу, яна пачала скардзіцца на тое, што ў яе на душы. А, наогул, душэўныя вашы якасці здаровыя. Вы хварэеце за нашу агульную справу. Гэта першая адзнака добрага здароўя. Дык дай бог кожнаму такую хваробу! А лячыць будзем тых, несумленных. Гэта мы можам перад вамі прадэманстраваць.



* * *

В о ж ы к (*да сястры*). Запрашайце, калі ласка, хворага.

Д о к т а р З д а р а в е ц к і. Ой, прабачце, сястрычка.

С я с т р а. Калі ласка, доктар Здаравецкі. Вы да доктара Вожыка? Калі ласка!

Д о к т а р З д а р а в е ц к і (*заходзіць разам з сястрою*). Добрага вам здароўечка. (*Вітаюцца*). Прыйшоў да вас параіцца наконт некаторых хворых. От гісторыі хваробы. А самі хворыя чакаюць прыёму.

В о ж ы к (*разглядае*). Так-так-так. Прозвішча... імя і імя па бацьку... Дрэнны ў яе язык, значыць?

Д о к т а р З д а р а в е ц к і. Занадта доўгі і абмывае другіх.

В о ж ы к. Дыягназ: паклёпус-пляткарства? Гэта па маёй спецыяльнасці. Прыпішам ёй іглатэрапію. (*Сястры.*) Пішыце: дзесяць сеансаў іглаўколвання ў язык. *(Сярод публікі нехта завойкаў.)*

Д о к т а р З д а р а в е ц к і. У гэтага таксама нешта дрэнна з языком.

В о ж ы к *(чытае гісторыю хваробы, называе канкрэтнае прозвішча)*. Язык не паварочваецца на крытыку недахопаў, часта то закусвае язык, то ліжа тое, што ніжэй. Пра такога «лізаздольнага» наш вядомы сатырык Кандрат Крапіва пісаў у вершы «Язычок»;

Вось дык ладзіць
Вось дык гладзіць!
Вось дык ліжа!
Ніжай! Ніжай!
Яшчэ вазьмі
Вось тут лізні
Разоў ля ста
Каля хваста!

І гэтую хваробу лечыць наша амбулаторыя. (*Разглядае гісторыі хваробы.*) Дык вось, дарагі мой калега... Так-так, не здзіўляйцеся: калега. Бо вы, медыкі, лечыце ўсякія хваробы, балячкі і скулячкі сваімі метадамі, а мы сваімі. Што ж рабіць, ёсць, на жаль, такія сур'ёзныя хваробы. Аднаму вочы трэба лячыць, бо не бачыць тое, што перад носам робіцца. От, напрыклад, у першай брыгадзе малатарня пад адкрытым небам, Язэпавы куры дратуюць калгасныя пасевы, каровы няпоеныя, позна статак у поле выганяюць... Другі, як і наш Кураедаў... — глухі, як пень, не чуе голасу крытыкі, не чуе, хоць ты трэсні. У трэцяга з сэрцам нешта дрэнна — не ля-

жыць яно да сур'ёзнай працы дый годзе! А ў чацвёртага другое ліха — галава баліць толькі за сваё... У пятага... А вось і пяты.*

## БАЦЬКАВА ШЫЯ

Чуецца тупаценне. Бацька ідзе і трымае на шыі здаровага хлопца, які яго паганяе.

Вожык. Бачыце, асядлаў бацьку і ездзіць, ахламон.

Сынок. Няхай матацыкл купіць, інакш не злезу.

Сястра. А ты раней зарабі.

Доктар Здаравецкі. А каб зарабіць, трэба ж рабіць.

Сынок. Няхай трактар робіць. Ён жалезны. І конскіх сіл у яго багата.

Вожык. А ну, злазь. Злазь, кажу! *(Злазіць.)* Думаеш, бацьку лёгка, калі на яго шыі такая скула сядзіць?

Сястра. У самога, відаць, не сядзела!

Доктар Здаравецкі. Сядзела, але я вылечыў.

Сынок. Такі гузак, што цэлы тыдзень не мог галаву павярнуць.

Вожык. Бачыш, нават тыдзень цяжка было стрываць, а то гэткая здаровая скула сядзіць на шыі ўсё жыццё і бацька трымае.

Сынок. А вы на каго, уласна кажучы, намякаеце?

Вожык. Ды я ж без намёкаў. Гэтакія аматары не злазіць з бацькавых каркаў стараюцца з цягам часу перасесці на дзяржаўную шыю. Але з гэтага месца няцяжка перасесці на другое, больш небяспечнае. *(Да бацькі)*. Трэба такога гнаць у тры шыі.

Бацька. А куды?

Вожык. На працу!

Бацька. Не хоча.

Вожык. Дык паспрабуйце вы самі сесці яму на шыю.

Бацька робіць спробу асядлаць сынка, але той дае драпака. За ім бяжыць і бацька.

---

* Можа быць і шосты, і сёмы... У залежнасці ад мясцовых фактаў.



## ВЕТРАГОНУС СВЕРБУС

Ляціць фарсісты малады чалавек з лёгкімі крылцамі. Ён пырхае па сцэне, зыркае вачыма і, заўважыўшы тэлефон, хапаецца за трубку.

Стракагёл. Калі ласачка, паклічце мне Настачку. Ало! Ало! *(Ён не бачыць, што за яго спіной Вожык, Здаравецкі, сястра)*. Ало! Гэта Настачка? А гэта я. Я, твой верны пёсік. Пазнаеш мяне, мая красачка? Які ж я шчаслівы, што ты ёсць на свеце. Верыш? *(Паўза)*. Твае словы, як вада гаючая на параненае сэрца маё. Дык роўна а шостай гадзіне я стану перад табой, як ліст перад травой. Прывецік! *(Вешае трубку. Радасна пацірае рукі.)* Ха-ха! Ляцяць, як матылькі на агонь! *(Зноў бярэ трубку.)* Наташу можна? *(Паўза.)* Гэта Наташа! Натачка! Зорачка мая ясная. Не пазнаеш? Гэта Арнольд! Арнольд, кажу. Даю па літарах *(Заглядае ў блакнот)*: Арынка, Рытачка, Настачка, Олечка, Леначка, мяккі знак, Дашанька... Так, так: той Арнольд, які і дня не можа пражыць без цябе, мая ягадка. *(Прыкладае трубку да сэрца.)* Чуеш, як сэрца — цюк-цюк-цюк? Яно адкрыта для цябе, мая рыбанька. Я лячу да маёй любай на лёгкіх крылах кахання.

Вожык. Цюк-цюк, цюк-цюк. Вы не хворы?

Стракагёл *(разгубіўся)*. Я, я... *(Вешае трубку.)* Я спяшаюся.

Тэлефонны званок. Сястра здымае трубку.

Стракагёл. Сястрычка, міленькая, калі гэта Лорка, дык мяне тут няма.

Сястра *(слухае)*. Ага, бачыла такога. *(Разглядае Стракагёла.)* Кляўся, значыць, жаніўся, а потым дзіця нарадзілася і ён уцёк? Дык вот што, Маруся...

Стракагёл *(з жахам.)* Маруся? Ой, мамачкі, ратуйце.

Доктар Здаравецкі *(трымае яго)*. Адну хвіліначку!

Сястра. Бачыш ты яго? Страчаліся — цалаваліся, дзіця нарадзілася — рассталіся!

Доктар Вожык *(аглядае яго)*. Ага, лахі пад пахі і паляцеў, як птах. Усё лётаем, скачам? І доўга вы з галінкі на галінку будзеце чыжыкам скакаць?

Стракагёл. Без прычыны і каза не скача.

Доктар Вожык. Вы хворы. У вас тыповы ветрагонус-свербус.

Страказёл (*з жахам*). Гэта небяспечна?

Доктар Вожык. Вельмі. Ветрагонус у вас у галаве, а свербус у нагах. У галаве вецер свішча. Праўда?..

Страказёл (*сціскае галаву*). А каб на яе халера... на гэтую Марусю.

Доктар Вожык. Калі вецер гуляе ў галаве, задужа многа гуляе і той, каму гэтая галава належыць.

Доктар Здравецкі. З-за такой галавы і нагам спакою няма. Свярбячка нападае.

Вожык. Скача Страказёл, ляціць... За ім услед ляцяць і выканаўчыя лісты на спагнанне аліментаў.

Страказёл. Ляцяць, каб на іх ліха.

Доктар Вожык (*гучна*). Ветрагон!

Страказёл. Што-о? Ой, вунь Маруся ідзе! (*Зрываецца з месца.*)

Доктар Вожык. Такім ветрагонам паэт Бірала прысвяціў свае прыпеўкі пад назвай «Ветрагон». (*Сястры.*) От пачытайце.

Сястра.

Жыў Міхалка ля Дукоры,
Жыў у прымах у Хадоры.
Бо ў Хадоры — двор і хата.
Праўда, жонка старавата.
Кінуў, рынуў — і у Тальку,
Спрабаваў сасватаць Гальку.
Не пайшла дзяўчына гэта —
Зразумела крутасвета.
Пераехаў у Расоны.
Там цвіла, як ружа, Соня.
Хмелем ён ля кветкі віўся,
Што ж — сасватаў, ажаніўся.
Не мінула і паўгода —
Зашумела непагода.
Чуем вось такую справу:
На развод падаў заяву.
Эй, не верце ветрагону —
Ашукае, як варону!

## ЗАДЗІРАНОСУС

Важна, задужа высока задраўшы нос, заходзіць надзьмуты, самаўпэўнены і фанабэрысты пацыент з пухлым партфелем.

Вожык. Чаму ж вы, даражэнькі, без чаргі?



Пацыент. Падобна на тое, што вы, доктар Вожык, не ведаеце, хто я такі...

Вожык. Выбачайце, калі ласка, але не меў гонару пазнаёміцца з вамі.

Пацыент (*з пыхай*). Я Носаў! Чулі?!

Вожык. Калі не чуў, то бачу: Задзярыносаў.

Пацыент (*начальніцкім тонам*). Носаў, кажу! (*Яшчэ вышэй задзірае нос.*)

Вожык (*пільна ўглядаецца*). Дужа хворы вы чалавек. У вас сур'ёзныя сімптомы задзіраносуса. З вачыма нешта...

Пацыент. Нічога, у гару дык добра глядзяць.

Вожык. А што ўнізе робіцца, не бачыце? Так-так... От я і кажу: небяспечная хвароба. Заўважана, што ў такіх хворых ад першай жа малюпасенькай удачы, нібы ад лішняй чаркі, пачынае шумець у галаве. От чаму галава ў іх адкідаецца назад, а нос задзіраецца ўгару, так што і крукам не дастанеш. Такі хворы далей свайго носа нічога не бачыць. І часта робіць няправільныя крокі, чапляецца, нібы той сляпы, за кожную купіну, спатыкаецца, чорнае прымае за белае, драпежнага ваўка за бяскрыўдную авечку, абывацельскае балота — за рай зямны.

Пацыент. Ну, ведаеце, гэта паклёп на мяне, Носава. Гэта падрыў майго недатыкальнага аўтарытэту. Я, калі хочаце ведаць... (*Зноў выпінае жывот і партфель.*) Я... Я-а-а!

Вожык. І да таго прагрэсіруючая блізарукасць. Палітыкус-слепус называецца.

Доктар Здравецкі. Сядайце во тут. От табліца. Чытайце першы радок.

Пацыент. Не бачу!

Доктар Здравецкі. Чытайце другі радок.

Пацыент. Нічагусенькі не бачу..,

Доктар Здравецкі. А што ў апошнім радку?

Пацыент (*з радасцю*). Я, я, я!

Вожык. Толькі «Я» вы заўважаеце, хоць яна і самая апошняя і самая малюпасенькая.

Доктар Здравецкі. Прыпішу я вам, от, акуляры. (*Дае.*) Падыходзяць?

Пацыент (*прымераўшы*). Акурат! Цяпер я... я ўжо ўсё бачу. Я...

Вожык. Э-э... зноў заякаў. Можна падумаць, што без гэтага «я» і свет клінам сышоўся б. Вам жа казалі, што «я» на самым апошнім месцы.

Пацыент (*з абурэннем*). Гэта я на самым апошнім

месцы? Слухайце: вы са мною ў печкі-лавачкі не гуляйце. Я першы выканаў план уборкі, я першы ўкамплектаваў МЕТЭФЭ і гэ дэ...

Вожык (*смяецца*). МЕТЭФЭ?.. І гэ дэ?

Пацыент (*задраўшы нос*). І гэтак далей.

Вожык. А далей ужо і ехаць няма куды.

Пацыент (*фанабэрыста*). У мяне свой выезд ёсць. Персанальны.

Сястра. Чулі такія прыпеўкі? «Ой, ты, мілы, не фарсі, высока носа не насі».

Вожык. А то на сваім персанальным выездзе даедзеш... (*Вымае з сумкі паперу. Чытае*): «Да вясны наш калгас поўнасцю падрыхтаваўся».

Пацыент. Дык гэта ж мая справаздача.

Вожык. На двары красавік, а ў вашай справаздачы ўжо ліпа цвіце. А кармавы баланс не ліпавы?

Пацыент. Па кармах мы э-э... І па ўдоях мы э-э-э... ды па ўраджайнасці мы таксама...

Вожык. «Э-э-э»... Ужо заэ-экаў і замыкаў: «мы, мы, мы». А цяпер трэба было сказаць «я». «Я не ўзначаліў барацьбу за высокі ўраджай». «Я самазаспакоіўся...», «Я аказаўся не на ўзроўні новых задач», «Я праваронiў МЕТЭФЭ...» і гэ дэ, і ў такім жа духу.

Пацыент. Дазвольце, дазвольце! Ці ж я асабіста вырошчваю ўраджай ці надойваю тое малако? Я ж толькі старшыня. Што я, разарвуся?

Вожык. Вось табе і маеш! Цяпер ужо выходзіць: «І я не я, і пасада не мая»!

Пацыент (*прыціскае да сябе партфель*). Як гэта пасада не мая? (*Паўза.*) Выходзіць, мяне ўжо на мыла?

Вожык. Чаму ж? Будзеце працаваць...

Пацыент. Працаваць? Ага! Можа мяне ўжо на павышэнне? Не век жа векаваць старшынёй! Я не супраць атрымаць новы партфель.

Вожык. Партфеляманія! Разнавіднасць той жа хваробы задзярыносус.

## НЯНЬКА І СМАКТУН

Коціцца каляска. У ёй Смактун. Праз соску ён смокча малако з бутэлькі, на якой напісана «Кармы». Штурхае каляску нейкі салідны дзядзька ў выглядзе нянькі ў фартушку і чэпчыку.



Смактун (*ссе і крычыць, ледзь не давіцца*). Няня, няня дай-дай! Гам-гам... (*Енчыць.*)

Вожык. Выцягніце гэтага смактуна з каляскі!

Нянька. Тшш... Няхай лепш спіць. (*Спявае і калыша.*) А-а-а-а... Аа-а-а...

Спі, сыночак міленькі,
Галубочак шызенькі...

Ну, што ты вочы вылупіў?

Смактун (*енчыць*). Гам-гам... Дай-дай!..

Нянька. На, на, ненажэрны! (*Пхае ежу.*)

Смактун (*глытае, аж давіцца*). Мала! Мала! Дай яшчэ!

Нянька. Ох, і жлукта ненажэрны!.. Жывот кажа «годзе», а вочы «яшчэ!» Ну, што з ім рабіць, доктар?

Смактун (*плача*). Да-ай! Гам-гам!

Нянька. Ну спі, спі ўжо, горачка маё. (*Люляе.*)

А-а-а... А-а-а...
Спі, сыночак міленькі,
Галубочак шызенькі
А-а-а... Спі, сыночку,
Ты заплюшчы вочкі...

...на нізкія ўраджаі збожжа, на нізкія ўдоі, на дрэнную арганізацыю працы.

А-а-а... А-а-а... лю-лі-люлячкі!..

Спіць. Ох, дзякуй богу, угаманіўся. (*Вожык хоча падысці.*) Тшш... Не чапай ліха, пакуль спіць ціха.

Вожык. Дык што з ім такое?

Нянька. Як толькі вочы расплюшчыць, адразу крычыць: «Дай кармоў, дай насенне», усё дай ды дай, а сам і з месца не зрушыцца, каб што-небудзь самастойна зрабіць.

Вожык. А вы паспрабуйце соску ў яго адняць, можа ён тады самастойна на ногі стане.

Нянька. А што вы думаеце? (*Забірае соску, хаваецца.*) Смактун няшчасны.

Смактун (*расплюшчыў вочы*). Няня! Няня! Дай-дай, гам-гам. (*Выпаўзае з каляскі, і мы бачым здаровага дзецюка. Крычыць басам*). Няня-у! Нянька! (*Плача.*) Гы-ы... Кінула мяне аднаго! Што я цяпер рабіць буду? Без нянькі-і-і... (*Аглядзеўся. Пайшоў.*)

Вожык (*да нянькі*). Бачыце? Тэпае!

Нянька (*усцешылася*). Сам шлэпае. Шлэп-шлэп-шлэп! Самастойна!

Смактун (*азіраючыся, пакідае сцэну... Крычыць*). Нянька! Нянька! Дай-дай! Гам-гам!

Вожык. Нічога, пакрычыць і перастане.

## БУДЗЬ ЗДАРОЎ ДЫ З ЛАЎКІ ДАЛОЎ

Грукат у дзверы, за якімі чуецца п'яны голас:
«Барадою, сватка, патрасі,
Маладзіцам чарку паднясі.
Калі, сват, гарэлкі не дасі,
Караваю трасцу ты з'ясі».

Жанчына вядзе пацыента.

Пацыент. Доктар! Прападаю! (*Крычыць*). Ратуйце! (*Да публікі*). Э-э, што вам трэба туттака? А ты ккуды ппрапала? Ссхавалася? (*Убачыў крэсла.*) А-а? Вот куды забралася. (*Абдымае крэсла.*) Ну, не ппалч, міленькая (*Хапаецца за галаву. Хістаецца*).

Вожык. Што з вамі? Вы ж на нагах не трымаецеся. Захварэлі?

Пацыент нешта мычыць. Жонка яго падтрымлівае.

Вожык. Та-а-ак, захварэлі.

Жонка пацыента. І не кажыце, доктар.

Пацыент. Але, нняхай скажа. (*Плюхнуўся ў крэсла.*) Ану, я слухаю.

Вожык. Лепш я вас паслухаю. (*Прыкладае трубку.*) Дыхайце! (*Пацыент дыхнуў.*)

Доктар Здаравецкі. Набакаліўся.

Вожык. Устаньце, хворы, прайдзіцеся па гэтай маснічыне. Што? Далягляд у тумане? Развядзіце рукі. От так. (*Паказвае.*)

Пацыент, чапляючы нага за нагу, ідзе, спявае:

Ах, сяброўачка мая,
Ах, мая ты пляшачка!
Усю ночку снілась мне
А мая ж ты, ласачка.

Пускаецца ў скокі, але адразу плюхнуўся ў крэсла.

Вожык (*прыкладваючы трубку да грудзей*). Дыхайце, дыхайце свабодна.



Пацыент. Паспрабуй тут дыхнуць! (*Аглядаецца на жонку.*) Адразу скажа: (*пераймае.*) «Зноў набраўся!»

Вожык. Устаньце! (*Працягвае выслухоўваць.*) Так-так... А цяпер вам трэба сесці.

Пацыент. Адсядзеў ужо.

Жонка. Дзесяць сутак! Дайце яму, даражэнькі, якое зелле.

Доктар Здаравецкі (*адлічвае кроплі*). Дзве... тры... пяць... дзесять... дваццаць... Вось піце гэтыя кропелькі, яны вам памогуць!

Пацыент. Мікстурка? Кропелькі? Няхай іх кконі п'юць.

Сястра (*смяецца*). Коні п'юць вёдрамі, ды ніколі п'янымі не бываюць.

Вожык. І здаровыя, як коні. (*Дае яму мензурку.*) Піце і вы.

Пацыент. Ну, дык будзь здароў! (*Перакульвае.*)

Вожык. «Будзь здароў», «будзь здароў» — дый з лаўкі далоў!

Пацыент. Ад вады?

Доктар Здаравецкі. Зірніце на мой палец.

Пацыент. Гы-гы. «Палец»! А сам два пальцы паказвае.

Вожык. Дваіцца ў вачах.

Жонка. Ага. Як набярэцца гэтай атруты, дык усё, усё яму здаецца ўдвая болей, і што на складзе—усё падвоілася. Тады ён пачынае браць са склада і прапіваць на радасцях. А як толькі праспіцца, бачыць — недахоп. Тады п'е ўжо з гора. Ой, горачка маё!

Пацыент. Вы з ёю за адно. Я ббуду сскардзіцца! (*Да Вожыка.*) І на вас управу знайду. (*Да сястры.*) І вас ппраўучу. (*Махнуў рукой.*) Ээ... што з вас возьмеш? Нават па-паўлітэрку не паставіце ддобраму чалавеку... Па-пайду! (*Працуе локцямі і кулакамі.*) Дарогу!

Жонка. П'янаму і чорт дарогу саступіць. Ну, куды ты прэшся?

Пацыент. К чорту на рогі. (*Раптам вытрашчыў вочы.*) Э-э, што за чорт?

Жонка. Дапіўся! Аж чарцяняты ў вачах скачуць.

Пацыент (*з жахам*). Ой, скачуць!

Ім насустрач, кульгаючы, дыбае Чорт. Яго можна пазнаць па невялічкіх рожках, што тырчаць над вушамі, і па казлінай барадзе.

Пацыент. Згінь, згінь, паганае стварэнне!..

Хоча бегчы, чапляецца, падае. Зноў паднімаецца. Разам з жонкай знікаюць.

Чорт (*прытанцоўваючы на адной назе*). Ой, нага, ой, нага, без нагі застаўся я.

Доктар Здаравецкі (*шэптам да сястры*). Чорт ведама што! Адкуль ён узяўся? *(Да чорта.)* Што з табой, нячыстая сіла, э-э-э... выбачайце, глыбокапаважаны чорт?

Чорт (*скача на адной назе і плача горкімі слязьмі*). Цяпер ужо ўсе будуць дражніць: «Чорт бязногі! Крыванджа!»

Сястра. А што цябе носіць па балотах? Скачаш з купіны на купіну.

Доктар Здаравецкі. Што ж, кожнаму сваё. Чорт прывык к балоту...

Чорт. Ужо адвык. Няма ўжо таго балота. Асушылі-і-і... (*Плача.*)

Вожык. Ну, не плач, вылечым.

Сястра. Давай перавязку зраблю. (*Перавязвае.*)

Доктар Здаравецкі. Дык дзе ж гэта ты, чорт, нагу зламаў?

Чорт. Эх, дарагі! Каляіны, яміны, аб'езды... (*Дэкламуе.*) «І як цудоўна яна сама, гэтая дарога!.. Прачнуўся — пяць станцый пабегла назад...»

Доктар Здаравецкі. От жа чорт! Проста з «Мёртвых душ» Гогаля шпарыць.

Сястра. Граматны чорт!

Чорт (*цяжка ўздыхае*). А па дарозе з райцэнтра ў калгас... не заснеш, не-э! Язык адкусіш!

Уваходзіць чалавек і трымаецца за шчаку.

Чорт. Ой, мамачкі, Дораддзел ідзе! (*Зрываецца з месца, бяжыць, ледзь не зваліўшы з ног новага пацыента. Шуснуў за кулісы.*)

Дораддзел (*уваходзіць*). От чорт... так жа зубы баляць! Так баляць!

Доктар Здаравецкі. Сядайце. От тут. Адкрыйце рот. Так-так... З мастамі, скажу я вам, дрэнна. Катастрафічна!

Дораддзел (*хапаецца за шчаку*). Ой, дрэнна!

Вожык. Так дрэнна, што чорт нагу зламаў.

Доктар Здаравецкі. Шырэй адкрыйце рот.

Вожык (*углядаецца*). Хм... Калдобіны, яміны ўсякія. Рамонт, тэрміновы рамонт патрэбен.



Дораддзел. Што ж, раз трэба дык трэба.

Вожык. Рамантуйце, дарагі таварыш Дораддзел.

Дораддзел. Што-што-што?

Вожык. Рамантуйце масткі, кажу, дарогі. Каб не было ані ямін, ані калдобін.

Дораддзел (*зразумеўшы*). Я пастаўлю пытанне... Абгаворым, абмяркуем. *(Зноў хапаецца за шчаку.)* Ой, доктар, хутчэй... Рамантуйце.

Вожык. Што ж, раз трэба... Мы паставім пытанне, абгаворым у калектыве, абмазгуем...

Дораддзел (*енчыць, стогне*). Ой, цярпець больш не магу.

Вожык. Нічога, нічога, абмазгуем, уладкуем, узгоднім гэтае пытанне. Пацярпіце пару тыдняў.

Дораддзел (*з жахам*). Пару тыдняў! Вой! Вой!..

Вожык. Што, гарыць?

Дораддзел. Гарыць, ой, гарыць, як агнём смаліць! (*Трымаецца за шчокі і зноў скуголіць*). От жа чорт! (*Адкульсці зноў выскачыў Чорт. Дораддзел абамлеў. Чорт дае яму шклянку вады. Дораддзел п'е, барабаніць зубамі аб шкло.*) Я ўсё зраблю, доктар, усё без цеганіны. Для вас...

Вожык. Ну, дык рабіце. Для ўсіх!

Чорт. І для мяне-э-э... (*Зрывае бараду і рожкі*). І для мяне, калгаснага шафёра Дарожкіна.

Дораддзел (*рукі яго трасуцца. Здымае трубку, набірае нумар.*) Нічыпар Іванавіч? Зараз жа прыступіць да рамонту маста! Якога? Што на скрыжаванні. І за дарогу трэба зараз жа брацца. Так-так, гарыць! *(Хапаецца за зубы.)* Ах, чч... выбачайце. Ого, яшчэ і як гарыць! Разумееш? Тэрмінова рамонт патрэбны. (*Плюхаецца ў крэсла.*)

## ДЗВЕ СВІНКІ

Заходзіць пацыент.

Доктар Здаравецкі (*углядаецца ў твар*). Двухбаковая завушніца.

Хворы (*стогне*). Доктар, месца сабе на знаходжу. (*Крэкча.*)

Вожык. Дзіва што! Разумееце, у вас свінка!

Хворы. Ой, няма! Няма ў мяне той свінкі.

Здаравецкі. Як гэта няма? Я ж не сляпы, бачу!

Вожык. І я ведаю, што ёсць.

Хворы (*з жахам.*) Ведаеце? (*Мнецца.*) Прызнаюся! Ёсць! Ёсцека ў мяне свінка. Але ж свінку я не браў. (*Паўза.*) Парасё няшчаснае ўзяў. Малочны парсючок! Каб мне з гэтага месца не сысці, калі ён не быў тады мале-е-нечкім сысунком.

Вожык. Усякі кабан парсючком быў.

Хворы. Дык няўжо за гэтае паршывае парасё мне адкормленую свінню цяпер аддаць? Гэта ж проста свінства!

Вожык. Каб не было аніякага свінства, от вам мая парада: тую свінку, свінню, значыць, што ў вашым хлеўчуку рохкае, здайце на калгасную ферму, а гэтую (*Паказвае на твар.*) будзеце лячыць лекамі, што доктар Здаравецкі прыпіша. А то адразу дзве свінкі, ці не задужа гэта? А потым пройдзеце курс лячэння на сходзе калгаснікаў, суд грамадскасці вас лячыць будзе. Сваімі сродкамі.

Хворы (*хапаецца за галаву*). На сходзе. Пры ўсім чэсным народзе? Ой, папаўся! Папаўся, як верабей у шапку. (*Шкандыбае за кулісы.*)

Доктар Здаравецкі (*усміхаецца*). Значыць, і сход яго будзе лячыць?

Вожык. Так, крытыкай. Яно лякарства хоць горкае, але карыснае. Дапамагае, ого! Яшчэ як дапамагае.

Доктар Здаравецкі. Так, калега. Смех самы радыкальны сродак лячэння, скажу я вам. (*Да публікі.*) Мне, медыку, можаце паверыць.

Дык будзем смяяцца
Штодзённа і шчыра.
Нам смех, як паветра,
Патрэбны ў жыцці.
І гумарам лёгкім,
І вострай сатырай
Людзям ў камунізм
Дапаможам ісці.

Голас з публікі. Згадзіцеся: недахопы непазбежны. І на сонцы ёсць плямы. І на здаровай яблыні гнілы яблык знойдзецца.

Вожык. Знойдзецца. Але ад аднаго гнілога яблыка загнівае цэлы воз. Мы супраць гнілля, супраць пустазелля... Скажам вершамі беларускага паэта Максіма Лужаніна:

Пустазелле не мінаем,
З каранямі вырываем,
Усё, што нам псуе загон,
Вон: свірэпа і драсён,



Балтун і шаптун,
Бюракрат і казнакрад,
Сімулянт і спекулянт,
І гультай — вылятай!
Дармаед і п'яніца
Доўга не папарацца!
Ім жыцця няма нідзе —
Шпарка поліва ідзе!

Вядучы. Наш смех не да спадобы тым, хто хацеў бы поперак дарогі нам стаць, смеху, як агню, баяцца тыя тыпы, што хацелі б патушыць сонца нашай светлай праўды.

Зноў голас з публікі. А калі чалавек не разабраўся, памыліўся...

Вожык. Здаровы смех пойдзе яму на папраўку.

2-і вядучы. Шмат хто асвяжыўся здаровым смехам і адчуў як не трэба лепей. Бо «дзе смех, там і чалавек» — кажуць у народзе.

Усе. «Смех — адзнака сілы і здароўя!»

2-і вядучы. Дык бывайце здаровы, жывіце багата!

*Без аб'явы ўсе ўдзельнікі эстраднага выступлення выходзяць на сцэну і спяваюць:*

Перш-наперш такое
Жаданне вам будзе,
Каб шчасце ракою
Плыло вашым людзям.
Пшаніцы б шумелі,
Як морскія хвалі,
Каб гралі вяселлі,
Радзіны б гулялі.
Жадаем вам працы
Увішнай і спорнай,
Каб цешыўся сябра,
Каб курчыўся вораг.
Жадаем на фермах,
На нівах, на пожнях
Па ўсіх паказальніках
Поспехі множыць.
Калі ж у вас план
Перавыканан будзе,
Ніхто не ўпікне вас,
Ніхто не асудзіць.
Яшчэ пажадаць вам
Засталася мала,
Каб племя герояў
Штогод вырастала.
Жадаем мы жыць вам
І весела, й сыта,
На зло прайдзісветам
Панам з Уол-Стрыта.
Бывайце ж здаровы,

Жывіце багата,
Хай шчасце загляне
У кожную хату.

## ЗАЎВАГА

Пададзеныя ў эстраднай праграме сатырычныя сцэнкі, гумарэскі, рэпрызы трэба будаваць на фактах, якія мелі месца там, дзе выступае агітбрыгада ці калектыў мастацкай самадзейнасці.

Сігналы з месц, пісьмы працоўных, факты, пададзеныя ў мясцовым друку, ды і ўласныя назіранні ўдзельнікаў агітбрыгад могуць даць цікавы канкрэтны матэрыял, які можа паслужыць каментарыем да тых ці іншых сцэнак ці рэпрыз.

*Аўтар.*